**Незалежнае выданьне Жодзіна й Смалявіцкага раёну**

# ПРЭС Панарама

**11.2007**

#6(17)



Ó ÍÓ Ì ÀÐÛ:

Інфармацыйны агляд рэгіянальных і агульнанацыянальных падзеяў



Навіны, факты, камэнтары, карысныя парады: эканоміка, грамадзтва, права, зьмены заканадаўства, калектыўная абарона грамадзкіх інтарэсаў, правоў і свабодаў ...







ПРОСТА – ЖЫЦЬ У СВАБОДЗЕ ... !!!

Licviny-INFA



## СЬВЯТЛАНА ... (Жодзіна)

Права кожнага –
ЖЫЦЬ У СВАБОДЗЕ!



Ï ðýñ Ï À Í ÀÐÀ Ì À



Ініцыятыва “Мы - Ліцьвіны” & Licviny-INFA

Цэнтар Ліцьвіны ў Жодзіне

Â À É Í À Ç Ò Ó Ð Î Ð À Í ?



Анатоль Аскерка

# Міліцыя сачыла за апазыцыяй у рэгіёнах у дзень Эўрапейскага Маршу ... ... і не толькі!

Дэмакратычны актывіст Анатоль Аскерка зьвярнуўся ў пракуратуру Барысава са скаргаю. Увесь дзень 14 кастрычніка за ім сачылі супрацоўнікі міліцыі й КДБ, каб не дазволіць яму ўдзельнічаць у Эўрапейскім Маршы ў Менску.

Прапануем вашай увазе тэкст скаргі Анатоля Аскеркі, ў якой палітык падрабязна распавядае пра незаконныя дзеяньні міліцыянтаў.

– 12 кастрычніка 2007 г. прыкладна а 18.30 да мяне дамоў завітаў капітан міліцыі, начальнік аддзелу аховы правапарадку РАЎС г. Барысава Вячаслаў Паўлавец.

У ходзе размовы ён задаў мне пытаньне, ці зьбіраюся я ехаць на “Эўрапейскі марш”, які мае адбыцца 14 кастрычніка бягучага году, а калі зьбіраюся, тады а якой гадзіне дакладна й дзе знаходзіцца месца збору іншых плянаваных удзельнікаў маршу. Я адказаў, што згаданае мерапрыемства дазволенае ўладамі, таму я маю права на ім прысутнічаць. Капітан Паўлавец сказаў, што добра ведае пра санкцыянаваны характар акцыі, але настойліва параіў у Менск ня ехаць.

14 кастрычніка 2007 г. а сёмай раніцы мне да дому нехта патэлефанаваў. Адказала жонка. Мужчынскі голас запытаўся: ці дома знаходзіцца Анатоль Зянонавіч? Жонка казала, што зараз запросіць мяне да тэлефону. Калі я ўзяў слухаўку, то ў ей ужо былі кароткія гудкі. Навучаны сумным вопытам, я адразу здагадаўся, што супрацоўнікі міліцыі правяраюць, ці я дома, і што мая плянаваная паездка ў Менск можа не адбыцца. Я адразу апрануўся, выйшаў ва двор. За брамкаю, мэтрах у дваццаці, стаяў легкавік з прыватнымі нумарамі, іншамарка. На жаль, нумар машыны я не запомніў. Марку таксама не магу ўзгадаць. Калі я падыйшоў да машыны, кіроўца адкрыў бакавое шкло. У салоне сядзелі два маладыя чалавекі ў цывільным. Я запытаўся ў іх: што, ахова? Смяючыся, яны адказалі: так, ахова. Тады я патлумачыў, што зьбіраюся ісьці на рынак, ці дазваляюць яны гэта мне зрабіць? Яны адказалі, што няма пытаньняў.

Прыкладна а палове на дзявятую раніцы я накіраваўся на аўтобусны прыпынак. Праз некалькі дзесяткаў мэтраў мяне дагнала вышэйзгаданая іншамарка. Запыталі: куды? на рынак? Я адказаў. што так, на рынак. Мне прапанавалі сесьці ў машыну. На маю просьбу прадставіцца адказалі адмоўна. Баючыся правакацыяў, калі мяне могуць потым абвінаваціць у непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі, я сеў у легкавік. На рынку пад пільным наглядам маіх “целаахоўнікаў” я разам з сваім шваграм зрабіў неабходныя пакупкі. Потым мы зноў селі ў аўто і рушылі ў накірунку дома. Пасля таго, як швагар выйшаў каля свайго дому на вуліцы Батурына, кіроўца ветліва папрасіў прабачэньня і сказаў, што яны маюць загад ад кіраўніцтва даставіць мяне ў РАЎС.

У кабінэце, куды яны мяне завялі, чалавек у цывільным прадставіўся як “падпалкоўнік Волкаў”. Гэта было прыкладна а дзесятай раніцы. На маю прозьбу даць тлумачэньні з нагоды майго знаходжаньня ў РАЎС, падпалкоўнік Волкаў адказаў, што яму вядома аб намеры ехаць у Менск на “Эўрапейскі марш”. Тады я зноў згадаў аб тым, што мерапрыемства зьяўляецца санкцыянаваным. Сьмяючыся, Волкаў сказаў, што ў маіх інтарэсах застацца на момант правядзеньня акцыі ў Барысаве, каб пазьбегнуць магчымых непрыемнасьцяў, напрыклад, выкарыстаньня фізычнае сілы супраць мітынгоўцаў. Дадаў, што бліжэйшы час мы будзем бяседаваць, будзем “вас выхоўваць”. Бяседа цягнулася да 13 гадзіны. Потым ён выклікаў тую самую машыну з тымі самымі маладымі людзьмі, на разьвітаньне сказаўшы, што настойліва не рэкамэндуе ехаць у Менск. На гэта я адказаў, што ўжо не паеду, таму як згублены час. На тым жа аўтамабілі мяне адвезьлі да хаты. Перакусіўшы, я па прозьбе жонкі, накіраваўся ў краму за прадуктамі. За брамкаю мяне чакала ўжо знаёмая машына. Гэта была прыкладна а палове на другую гадзіну дня. Пад суправаджэньнем машыны я схадзіў у краму. Па дарозе да дому мае “целаахоўнікі” папярэдзілі мяне, што будуць тэлефанаваць да дому кожную гадзіну, каб правяраць маю прысутнасьць дома. Так кожную гадзіну яны тэлефанавалі мне да



У пагоне за чарговай зорачкай!?

Невядома, што кіравала маёрам з Жодзінскага ГАЎС у часе ўчыняемага міліцыяй тэрору на шашы ...

Запісь у кнізе скаргаў Жодзінскага ГАЎС, зробленая затрыманымі Аляксеем і Сьвятланай Лапіцкімі па дарозе на “Чарнобыльскі Шлях” ...





Перахоп маршруткі з праваабаронцамі на ўскрайку Жодзіна.

**«Вайну» перанесьлі зь Менску ў рэгіёны – далей ад Эўрапейскіх амбасадаў ... !?**

**Пракуратура – заўсёды не заўважае падобных злачынстваў!**





дому, прадстаўляліся: “Вашы ахоўнікі” і пыталіся, ці я дома? Апошні раз мне патэлефанавалі а 17 гадзіне. Ужо пасьля гэтага яны зьехалі.
На падставе вышэйзгаданага, а таксама кіруючыся арт. 4-6, 14, 27 Закону аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь, Анатоль Аскерка просіць прыняць меры пракурорскага рэагаваньня ў адносінах да пералічаных асобаў, якія парушылі ягонае канстытуцыйнае права на свабоду меркаваньняў, перакананьняў, іх свабоднае выяўленьне, а таксама на свабоду сходаў, мітынгаў і вулічных шэсьцяў, зафіксаваных ў Канстытуцыі Рэспублікі

Падобнымі мэтадамі дзейнічалі й Жодзінскія міліцыянты. Напрыклад, можна ўзгадаць затрыманьне праваабаронцаў з Жодзіна, якія скіроўваліся на санкцыяваны ўладамі “Чарнобыльскі Шлях”.
“26 красавіка не патрапілі на акцыю “Чарнобыльскі шлях” дэмакратычныя актывісты і зь іншых рэгіёнаў. З Жодзіна, напрыклад, у той дзень мелі намер выехаць на сталічную акцыю лідэр тутэйшай суполкі Партыі БНФ Аляксей Лапіцкі і праваабаронца Сьвятлана Лапіцкая. Яны селі ў маршрутнае таксі, аднак на выездзе з гораду іх высадзілі міліцыянты і адвезьлі ў мясцовы пастарунак. Жодзінскія актывісты таксама лічаць гэтыя дзеяньні міліцыянтаў парушэньнем сваіх правоў. Як паведаміў Аляксей Лапіцкі, яны ўжо зьвярнуліся з пратэстам у пракуратуру.



(Лапіцкі: ) “Апошнія падзеі, зьвязаныя з затрыманьнем, паказалі, што ў нашым горадзе міліцыя пераступае пэўны рубеж. Падчас гэтых гвалтоўных дзеяньняў намесьнік начальніка міліцыі Дарожка вымушаны быў несьці мяне за ногі, цягнуць па асфальце на вачох у людзей. Пасьля таго гвалтоўнага затрыманьня нас пратрымалі да 19 гадзінаў у Жодзінскім ГАЎС. Прычым, не давалі паперы, каб я напісаў заяву ў пракуратуру”.

Па фактах неправамерных дзеяньняў міліцыянтаў (канкрэтна зафіксаваных з дапамогаю фотакамэры асобаў) у Жодзінскую пракратуру была пададзена заява. Пасьля выяўленьня асобаў Жодзінскага ГАЎС і ДАІ, што перавышалі службовыя абавязкі й дзейнічалі па-за межамі права, пракуратура раптоўна “разрадзілася” знаёмай фармулёўкаю. Такім чынам, у чарговы раз – абставіны не пацьвердзіліся. А злачынцы – не панесьлі адпаведнага пакараньня ...

Можна сабе толькі ўявіць, які гвалт стаяў бы, калі ў якасьці падобнай мішэні для экспэрыменту на дарозе, быў абраны вядомы дзеяч з Шклова, альбо хто-небудзь зь ягоных блізкіх ... “Дзядзькі ў пагонах”, проста адразу “пайшлі б па этапу”, без усялякіх праверак пракуратуры. Таму, махай не махай паласатай палкаю, а ўсё роўна яе прыйдзецца засунуць куда падалей, калі “генэрэаліс” запатрабуе ...
Няўдзячны лёс у цяперашняга “мента” служыць “пахану”, а не закону і праву. Нармальных міліцыянтаў адшукаць цяжка. А афіцэрскую годнасьць сярод іх – дык, верагодна, ужо зусім ня знойдзеш. Хто, з нармальных афіцэраў, сьвядома пайшоў бы на адкрытыя парушэньні правоў грамадзянаў, якіх ён мусіць абараняць ад крымінальнага гвалту і перасьледу?!
Як тут не разважай, цяперашняя справа міліцыянта-паліцэйскага, якога паставілі ў антытэрарыстычную “позу” ідэолягі-куклаводы – зусім незайздросная.

Аднак, з праўнага пункту гледжаньня, ва ўсіх падобных сытуацыях, справа – відавочная. Таму, злодзеям не сёньня, дык заўтра прыйдзецца раскрываць усе карты й моцна шкадаваць за падобныя дзеяньні. Адказываць – усё адно прыйдзецца, таварышы.

**Але, іх усіх, ужо сёньня – <u>трэба ведаць у твар!</u>**







*Па матэрыялах Радыё Свабода,*
*Алесь Вольны*
*Licviny-INFA*



ÏÐÀ¡ÍÛ ÔÀÐÏÎÑÒ

# ШТО "КІРУЕ БАЛЕМ" У БЕЛАРУСКІХ СУДАХ?


ПРАВААБАРОНЦА АЛЯКСЕЙ ЛАПІЦКІ



**Жодзінскія праваабаронцы зьвярнуліся ў Камітэт па Правах Чалавека ААН і спадзяюцца на ягоную аўтарытэтную падтрымку ў абароне грамадзянскіх і палітычных правоў у Беларусі.**

Як паведаміла жодзінская праваабаронца Сьвятлана Лапіцкая, 28.06.2007 г. у Беларускае Прадстаўніцтва ААН у Менску была пададзена заява для разгляду ў Камітэце па Правах Чалавека ААН (Жэнэва) ад заяўнікоў, пацярпелых у выніку дзеяньняў гарадзкіх уладаў (у прыватнасьці, старшыні Жодзінскага гарвыканкаму Грышчанкі В.І.).



На думку заяўнікоў, гарадзкія ўлады незаконна забаранілі мірны мітынг грамадзянаў у Жодзіне 23.09.2006, на якім плянавалася абмеркаваць становішча ў краіне, выказацца ў падтрымку ейнага сувэрэнітэту і незалежнасьці. На мерапрыемства, замоўленае ў законным парадку (за 15 дзён да правядзеньня), на афіцыйна вылучаным і прыстасаваным для масавых мерапрыемстваў месцы (пляцоўка ля цэнтральнага ўваходу ў Жодзінскі гарадзкі Парк Культуры) былі запрошаны вядомыя ў Беларусі грамадзкія і палітычныя лідары: апанэнт улады на Прэзыдэнскіх выбарах у 2006г. Аляксандар Мілінкевіч, старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка. Таксама, плянаваліся выступы вядомых у Жодзіне актывістаў і лідэраў грамадзкае думкі.

Са словаў праваабаронцаў "дадзеная забарона ёсьць грубым і ўжо сыстэматычным парушэньнем гарадзкімі ўладамі Жодзіна права грамадзянаў на мірныя сходы, якое адлюстраванае ў Асноўным Законе Рэспублікі Беларусь (арт. 35) і ў адпаведных палажэньнях Закону аб масавых мерапрыемствах, а таксама тычыцца парушэньня грамадзянскіх і палітычных правоў заяўнікоў – арт. 21 п.3; арт.60 Канстытуцыі РБ і арт. 21 Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах ад 1966г., якія падпісаны Рэспублікай Беларусь і абавязковы для выкананьня ўсімі суб'ектамі права на ейнай тэрыторыі."

Падобныя забароны мірных сходаў і мітынгаў з удзелам вядомых палітыкаў і актывістаў грамадзянскай супольнасьці адбываліся масава і ў іншых гарадах Беларусі.

Як лічыць адзін з заяўнікоў забароненага Жодзінскімі ўладамі мірнага мітынгу, ***праваабаронца Аляксей Лапіцкі:*** "Гэта ёсьць распаўсюджанай сёньня ў Беларусі практыкай парушэньня неад'емнага права грамадзянаў на мірныя сходы, асацыяцыі, абмен інфармацыяй …, без якіх немагчымае разьвіцьцё грамадзянскай ініцыятывы і



Дванаццаць патрабаваньняў Эўропы да ўладаў Беларусі - гэта шлях да законнасьці і дэмакратыі, міру і згоды, магчымасьць атрымаць сапраўдную дапамогу для стабільнага разьвіцьця краіны.



кансалідацыі ў грамадзтве, зьдзяйсьненьне свабоднага, асэнсаванага выбару, немагчымы народны кантроль над дзейнасьцю ўлады, а таксама публічнае адстойваньне правоў і свабодаў асобы. А значыцца – няма дэмакратычнага праўнага поля, дэмакратыі і свабоды. Але, гэта – той неабходны падмурак, без якога немагчыма эфэктыўна адстойваць таксама й жыцьцёва важкія эканамічныя інтарэсы грамадзянаў у Беларусі. Нягледзячы на гучныя словы кіраўніцтва краіны і ідэолягаў усіх узроўняў пра наяўнасьць у Беларусі “сапраўднай незалежнасьці, суверэнітэту, дэмакратыі і грамадзянскага міру”, паказальнага разьвіцьця “правільнай дзяржаўнай грамадзянскай супольнасьці” і “найлепшага ў сьвеце” выкананьня асноўных грамадзянскіх правоў і свабодаў, на практыцы тут назіраецца сыстэматычнае і грубае парушэньне законнасьці, прызумпцыі Канстытуцыйных нормаў, міжнародных абавязкаў Беларусі па імплемэнтацыі ў нутранае заканадаўства і судавытворчую практыку агульнапрызнаных і абавязковых для кожнае краіны ўдзельніцы дамовы міжнародных нормаў права.

Насамрэч, сьвядомае шырокамаштабнае парушэньне правоў грамадзянаў і адпаведных нормаў міжнародных дамоваў у Беларусі – ёсьць праяваю гэткага суцэльнага стратэгічнага падману грамадзтва, ілжывай і, па сутнасьці, антыбеларускай ідэалёгіі – падмены ідэалаў дэмакратыі, незалежнасьці і свабоды.

Для таго, каб стаць “моцнай і квітнеючай”, Беларусь павінна навучыцца паважаць і выконваць свае міжнародныя абавязкі, правы ўласных грамадзянаў, стаць надзейным і прадказальным эканамічным партнэрам, дэмакратычнай праўнай дзяржаваю, якая павялічвае патэнцыял сяброўства і міру вакол сябе, а не імкнецца шукаць ворагаў і вучыць сусьвет з дапамогаю ваяўнічае адыёзнасьці і неадэкватнасьці.”

*Алесь Вольны (Licviny-INFA):*
– Верагодна, што ў выпадку задавальненьня КПЧ ААН заявы па парушэньні ў Жодзіне права грамадзянаў на мірныя сходы і мітынгі, якое зьвязанае таксама з правам на асацыацыі, свабоду думкі і распаўсюд інфармацыі, нехта з адказных асобаў задумаецца над неабходнасьцю абавязковага выкананьня нормаў канстытуцыйнага і міжнароднага права ў Беларусі.




Photo: Licviny-INFA



***Аляксей Лапіцкі, праваабаронца:***
– Будзем спадзявацца на лепшае. Бо, іншае азначала б далейшае пагаршэньне становішча грамадзянаў у краіне, далейшае падзеньне міжнароднага іміджу Беларусі як прадказальнага і надзейнага партнэра, дабрасумленнага суб’екту міжнароднага права ў сьвеце.

А пакуль, у Беларускіх судах “балем кіруе” ідэалягічная мэтазгоднасьць.

Пры гэтым, Закону адведзена роля прыгожае “шырмы” для правасудзьдзя, судам – функцыя “даху” для любых дзеяньняў улады, “карнай прылады” ў руках пануючага аўтарытарнага рэжыму.

***Падрыхтаваў Алесь Вольны, Licviny-INFA***

**18 кастрычніку 2007г. заяўнікі атрымалі афіцыйны адказ ад Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь, у якім паведамляецца, што скарга разгледжана ў Беларускім Прадстаўніцтве ААН і скіраваная на разгляд у Камітэт па Правах чалавека (Жэнэва, Швэйцарыя).**



Сьвятлана Лапіцкая

ÑÏÀÄ×ÛÍÀ ...

# ÓÐ Î Ê² Ã²ÑÒ Î Ð Û ²!

# ВОРША 2007 – ХТО МОЖА ЗАБАРАНІЦЬ ПЕРАМОГУ … !?

**Сапраўдныя, а не дэкляратыўныя каштоўнасьці дзейснае ў Беларусі ўлады – зусім не нацыянальныя беларускія …**

**Постсавецкі рэваншызм і антыбеларускі панславянскі шавінізм – гульня на баку Крамля і Прамаскоўскіх імпэрскіх тэндэнцыяў у дачыненьнях да незалежнасьці Беларусі працягваецца.**

**Яскравы прыклад васальскай палітыкі – Ворша 2007.**

08.09.2007г. а 22-00 ля вёсцы Гацькаўшчына ля павароту да месца сьвяткаваньня “Аршанскае бітвы – 2007” на Крапівеньскім полі ля рэчкі Крапівенька (Крапіўна), узмоцненыя сілы міліцыі, ДАІ й людзі ў шэрым, прыпынілі шлях аўто, на якім на традыцыйнае месца сьвяткаваньня дня Беларускай вайсковай славы скіроўваліся зь дзецьмі Мікалай Кішкурна, Сяргей Патаранскі, Аляксей і Сьвятлана Лапіцкія.

Апэрацыяй на месцы кіраваў намесьнік ГАЎС Воршы. Ён патлумачыў, што месца ачэплена для аховы бясьпекі грамадзянаў і ягоныя падначаленыя не прапусьцяць аўто да месца сьвяткаваньня з прычыны знаходжаньня на полі боепрыпасаў з часоў “Вялікай Айчыннай вайны”.

Прайсьці на месца сьвяткаваньня – таксама строга забаранялася.

Аніякія довады і прапановы не прымаліся ...
Так, афіцыйна тлумачылася фактычная забарона ўладамі Беларусі сьвяткаваньня “Аршанскае бітвы” у 2007 годзе.

Забараніўшы такім чынам гістарычнае нацыянальнае сьвята, улады 8 верасьня прызначылі “Дзень гораду” ў Менску й арганізавана выцягнулі на вуліцы чырвона-зялёных “клоўнаў” з “доблеснага атраду” БРСМ.

Ля вёскі Гацькаўшчына пад Воршаю, тым часам, адбывалася “апэрацыя перахоп”, пакліканая недапусьціць на месца сьвяткаваньня аніводнага чалавека.

Так, ужо праз хвілінаў 15 пасьля спыненьня машыны, калі група грамадзянаў, прысутных у гэты час на дарозе, пачала спускацца з адкосу ля ракі на паляну непадалёк ад звычайнага месца штогадовага сьвяткаваньня, патрулюючыя дарогу сілы міліцыі пачалі актыўны перасьлед дарослых і дзяцей. Пры гэтым, шмат каго асьляпілі сьвятлом фараў, і спускаючыся фактычна ў цемру па крутым схіле ля мосту, некаторыя ледзь утрымаліся на нагах, атрымалі фізічныя пашкоджаньні, траўмы.

Тым часам, апошнюю групу з малагадовымі дзецьмі спыніў, як з-пад зямлі вырасшы афіцэр міліцыі. Потым высьветлілася, што гэта быў начальнік інфармацыйнага адзьдзелу ГАЎС у Воршы, маёр міліцыі Леанід Чарняўскі.

Апошні актыўна паклікаў сабе на дапамогу шэраговых міліцыянтаў, якія праяўлялі відавочную пасыўнасьць. Ён лаяўся і забараняў рухацца далей, гатовы быў аддаць загад аб масавым затрыманьні прысутных.

Каб не дапусьціць ужываньня сілы на вачах у дзяцей, якія ехалі выключна на сьвяткаваньне (11 гадовага Янкі Лапіцкага, 14 гадовага Яўгена Кішкурнага і 15 гадовага ягонага сябра Паўла) праваабаронца, сябра ПБНФ Аляксей Лапіцкі паспрабаваў “выклікаць агонь на сябе”. Ён пачаў настойліва патрабаваць ад афіцэра патлумачыць свае паводзіны, рабіў спробы паказаць афіцэру Чарняўскаму абсурднасьць сытуацыі – надуманасьць і штучнасьць довадаў, неправамернасьць дзеяньняў міліцыі. Ён пачаў патрабаваць спыніць гвалт і не палохаць дзяцей агрэсыўнымі дзеяньнямі ...

Акрамя таго, Сьвятлана Лапіцкая паставіла перад міліцыянатам новую задачу – знайсьці аднаго з падлеткаў, які згубіўся ў сумяціцы. А калі высьветлілася, што сын Мікалая Кішкурнага Яўген ужо затрыманы й пасаджаны ў “АўтаЗак”, Сьвятлана запатрабавала неадкладна выпусьціць непаўнагадовага на волю.

Ужо праз пару хвілінаў падлетка ўдалося вызваліць.

Аднак, міліцыянт Чарняўскі, працягваў нешта тлумачыць затрыманым пра знойдзенную сапёрамі “вялікую бомбу” у рэчцы, якую “ён сам асабіста, канешне, ня бачыў”, а таксама пра міну, знойдзеную адразу побач з памятным знакам на сьвяточным полі ...

Акрамя таго, ён рабіў намаганьні абгрунтаваць далейшую неабходнасьць затрыманьня ўсіх прысутных (разам зь дзецьмі) і дастаўкі іх “АўтаЗАкам” у “цёплы пастарунак”.

– “Вам будзе холадна, таму мы прапануем Вам …”

Ягоныя прапановы засталіся непачутымі, бо ў адказ прагучала “вялікая падзяка” за “паказальную службу” й праяўленую “руплівасьць”...

Аляксей Лапіцкі на разьвітаньне ўдакладніў імя і прозьвішча кіруючага апэрацыяй па затрыманьні маёру. І на гэты раз – пусты “АўтаЗак” вярнуўся на месца сваёй пачатковай дыслякацыі. Частка моладзі пасьпяхова ўкрылася ў кустарніку, а група грамадзянаў зь дзецьмі на аўто адправілася на супрацьлеглы высокі бераг Дняпра, дзе вакол вогнішча, пад гукі беларускіх сьпеваў, разам з атрымаўшымі добры ўрок дзецьмі – усе разам прысутныя здолелі адзначыць гістарычнае сьвята “Перамогі пад Воршай”.

Так, вялікае вогнішча “Бітвы пад Воршай”, якое традыцыйна штогод асьвятляла цудоўнае зорнае неба, поўнае гукамі малітваў, беларускіх сьпеваў, танцаў і водблескаў рыцарскай зброі … разьмятнулася навокал мноствам асобных маленькіх вогнішчаў-зорак, паходняў народнай памяці і пашаны 30 тысячам ваярам-абаронцам Айчыны начале зь гетманам Астроскім. Сапраўды памяць нельга адмяніць як і вялікія перамогі. Нашыя ваяры ў свой зорны час – адстаялі Бацькаўшчыну. Яны перамаглі ворага не колькасьцю, але розумам і сапраўдным вайсковым майстэрствам, перамаглі ўтрая большае войска Маскоўскага захопніка, абаранілі краіну

*Працяг на ст. 7*

# ÐÎÄÍÓÞ ÌÎÂÓ-ÓËÀÄÛ ÆÎÄÇ²ÍÀ ÏÀÊÀÇÀËÜ ÍÀ ²ÃÍÀÐÓÞÖÜ...!?



*Мэр горада, Васіль Грышчанка.*



## А ў Менску ...

## Лукашанец прапанаваў увесьці іспыт па беларускай мове для чыноўнікаў

Дырэктар Інстытуту мовазнаўства Акадэміі навук прапанаваў устанавіць дадатковае патрабаваньне да прэтэндэнтаў на працу ў органах дзяржкіраваньня. Аляксандар Лукашанец прапанаваў навукоўцам ініцыяваць заканадаўчую норму, згодна зь якой свабоднае валоданьне абедзьвюма мовамі стане абавязковай умовою прыёму спэцыялістаў на дзяржслужбу.

У часе выступу на паседжаньні сэкцыі па гуманітарных навуках і мастацтве дырэктар Інстытуту мовазнаўства падкрэсьліў, што такое патрабаваньне дапаможа беларускім пэдагогам фармаваць дзьвюхмоўную асобу, якая ўсьведамляе каштоўнасьць нацыянальна-культурных прыярытэтаў краіны.

«Калі вучань і ягоныя бацькі будуць разумець, што для таго, каб у будучыні заняць якую-небудзь пасаду, трэба па-сапраўднаму ведаць беларускую мову, то яны ў корані зьменяць сваё стаўленьне да яе вывучэньня», — цытуе БЕЛТА словы Аляксандра Лукашанца.

02.11.2007.

www. svaboda.org

## ÒÛÌ ×ÀÑÀÌ, ÁÅËÀÐÓÑÊ²ß ÍÀÇÀÂÛ ÂÓË²ÖÀ¡ Ó ÆÎÄÇ²ÍÅ ÇÜÍ²ÊÀÞÖÜ!

*Працяг, пачатак на ст. 6*

ад прыніжэньня, гвалту й рабаваньня. Вечная ім пашана і памяць! ... ...

Пад раніцу зьвязацца з актывістамі і арганізатарамі традыцыйнага сьвята не прадстаўлялася ўжо магчымым. На той час, відавочна, іх арыштавалі. Плян па затрыманьнях у гэтую ноч міліцыянтам прыйшлось-такі выконваць.

Рэжыму, які зрабіў стаўку на запалохваньне, заўсёды патрэбныя ахвяры. Цалкам збанкрутаваўшы ідэйна, ён што "ўпыр" сілкуецца, высмоктваючы апошнія сокі з усяго жывога – народнага, нацыянальнага …

У гэтай пачвары, сапраўды, няма сумленьня. Яна гатовая ўтрымліваць уласную ненажэрнасьць любым коштам.

Толькі недзе бліжэй да раніцы, Аляксей Лапіцкі, высьвятліў, што атрымаў даволі сур'ёзнае пашкоджаньне каленнага суставу тады, калі ледзь застаўся на нагах, утрымліваючы ад падзеньня малдшага сына Янку пры спуску па няроўнасьцях бэтоннага схілу ў часе перасьледу міліцыянтамі.

Аднак, нягледзячы на перашкоды й сплянаваныя правакацыі, адзначыць сьвята "Беларускай вайсковай славы" ўсё ж удалося.

Дзецям, цалкам, усё спадабалася. Асабліва, як яны казалі – другая сьвяточная частка іхных "прыгодаў пад Воршаю"... Сапраўды, каму зь дзяцей спадабалася б, напрыклад, міліцэйская "кутузка" альбо "звар'яцелы перасьлед" міліцыянатамі, неадэкватна азлобленыя твары "абаронцаў" у начы…?! Асабліва – калі ўлічыць, што ўсе ехалі на традыцыйны беларускі фэст пад зорным небам з цудоўным настроем.

Прырода тут, звычайна, заўсёды радавала і надавала новыя сілы кожнаму, хто дакранаўся да сьвятой памяці продкаў ... Скрозь стагодзьдзі яны былі з намі там заўсёды, пад зорным небам у гуках сьпеваў у палымяных водблесках вачэй сяброў і сябровак, там пад Воршаю, дзе ўзыйшла слава нашае перамогі, дзе яна жыве й будзе жыць заўсёды ...

Тэатар абсурду – скончыўся. Так зьнікне й мана, захлынецца ў нянавісьці ціхая здрада... А мы – будзем памятаць пра тое, што не магчыма запамятаць, чым поўніцца слава Айчыны, чаго ўжо ніколі не адняць у кожнага з нас. Бо памяць жыве ў сэрцы. І ў сэрцы жыве Беларусь!

Такім чынам, для гэтае групы грамадзянаў з Жодзіна, усё скончылася даволі няблага (у параўнаньні зь дзесяткамі затрыманых і арыштаваных).

**А ўлада чарговы раз даказала свой цынізм, прадэманстравала ўсяму сьвету свае сапраўдныя, а не дэкляратыўныя каштоўнасьці.**

**P/S**

Па фактах неправамерных дзеяньняў міліцыянтаў, якія абмяжоўвалі свабоднае перамяшчэньне грамадзянаў, перашкаджалі свабоднаму выказваньню меркаваньняў праз сьвяточныя імпрэзы, сьпевы й танцы; па фактах дзеяньняў, якія нанесьлі адчувальную маральную шкоду – абражалі нацыянальную годнасьць і супярэчылі існуючай у незалежнай Беларусі традыцыі шанаваць продкаў, абаронцаў Айчыны – кожны пацярпелы павіне спрабаваць абарняцца з дапамогаю закону.

Відавочна, можна было спачатку скіроўваць заявы ў пракуратуру. Апошняя магла б дасьледваць факты й зрабіць ацэнку правамернасьці дзеяньняў міліцыі. Аднак, сёньня мы маем "бездапаможна бязьдзейсныя праваахоўныя інстытуты". Пракуратура – ня знойдзе аніводнага факту правапарушэньня з боку сілавікоў. Суд – таксама. Адзіным абаронцам для нас застаецца Камітэт па Правах чалавека пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў! Гэта доўга, аднак да моманту "пахаваньня гэтага рэжыму" рашэньне будзе вынесена. А дадатковы цьвік у труну "імпэрыялізму" - ніколі лішнім не будзе. Так, Камітэт сумленна адсочвае ўсе дзеяньні Краінаў-Удзельніцаў Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах (у тым ліку і Беларусі), у якім вызначаныя абавязковыя для выкананьня міжнародныя стандарты права.

**Алесь Вольны, Licviny-INFA**

# АЛЕ, БЕЛАРУСЬ – ЖЫВЕ!


Ля прабітага кулямі шкла ...

З нагоды 2-х годзьдзя падзеяў, пасьля якіх мала чаго зьмянілася ў краіне, рэдакцыя хоча нагадаць некаторыя моманты змаганьня за Свабоду, за Беларушчыну, за Права "Людзьмі звацца", быць гаспадарамі ва ўласным "доме". Так, мала чаго зьмянілася ў лепшы бок. Як і раней (у 2000г. ці 2005г.) нападам прафашыстоўцаў падвяргаецца то сядзіба ТБМ імя Ф.Скарыны, то Ўправа ПБНФ у Менску, то месцазнаходжаньне нацыянальных сымбаляў, актывістаў ТБМ і ПБНФ, праваабаронцаў у Жодзіне

Пры гэтым, крымінальныя справы супраць злачынцаў, калі й распачынаюцца, вядуцца павольна й марудна, спыняюцца ці замаражваюцца, як бы, баяцца разварушыць "брыдоту" ў самым нечаканым месцы ...

Здаецца, што ўся ўзгадаваная "за народны кошт" праваахоўная сыстэма па нейкім негалосным загадзе ахоўвае Беларусаў ад самага дарагога і неабходнага ім у жыцьці. А правапарадак і спакой грамадзянаў разглядаецца выключна ў кантэксьце змаганьня зь мірнымі дэманстрантамі, нацыянальнымі сымбалямі ці сьвятамі, з меркаваньнямі апанэнтаў улады і незалежнымі СМІ ...

Здаецца, што негалосная вайна – распачатая супраць пашырэньня ведаў па роднай гісторыі, традыцыях ці мове, супраць усяго нацыянальна вартага й каштоўнага.

Можна ўзгадаць як улады з дапамогаю "спэцзакаў" у верасьні 2007 году імкнуліся забараніць сьвяткаваньне вялікай гістарычнай падзеі – "Перамогі пад Воршаю", якая традыцыйна адзначаецца Беларусамі ва ўсім сьвеце як вялікае дасягненьне Беларускага вайсковага майстэрства, бо сталася значнай падзеяй XIV стагодзьдзя й паслужыла справе абароны, захаваньня незалежнасьці нашай радзімы, пазбаўленьня нашых продкаў ад паўнамаштабнай акупацыі і рабаваньня з боку Расеі.

А можа і сапраўды ў сур'ёз, нехта лічыць, што перапісаўшы гісторыю, падмануўшы саміх сябе, нам стане радасьней і спакайней жыць за "чаркай з скваркаю"!? Беларусы адразу "паразумнеюць" і кінуцца ў абдымкі "славянскага братэрства", зажывуць без амбіцыяў (як, напрыклад, Смаленскія) у межах Вялікай Расейскай Імпэры!(?)

Дзякуй Богу, Беларусь не забылася на свае карані, пра ВКЛ, пра моц і славу продкаў, пра сваю гістарычную саманазву – Ліцьвіны.

Нашыя дзеці разам з намі хутка сталеюць і вучацца разважаць па-даросламу, бачыць і разумець сутнасьць таго, што адбываецца навокал. Сацыялягічныя досьледы, зь якімі вымушана лічыцца ўлада, паказалі, што абсалютная большасьць Беларусаў сёньня асэнсавала каштоўнасьць дзяржаўнай незалежнасьці і Свабоды.


Стрэлы у Жодзіне



Аднак, ня гледзячы на гэта, "нехта" ва ўладзе працягвае рабіць усё наадварот. Зьнікаюць беларускія назвы вуліцаў, пашыраецца й набывае агрэсыўныя рысы расейскамоўная экспансія. Чыноўнік, прымушае размаўляць з сабою "правільна" – па-расейску. Беларускамоўная ж эліта залічваецца ў стан патэнцыйных "ворагаў рэжыму" – апазыцыянэраў, якіх "трэба" адсочваць, кантраляваць, абмяжоўваць у перасоўваньні, перадачы інфармацыі, у звычайных правах і свабодах ... (!?)

Неправамерныя дзеяньні супраць актывістаў апазыцыі – як бы, санкцыяваныя "па вэртыкалі", таму не заўважаюцца бязьдзейснымі ў такіх выпадках праваахоўна-судовымі структурамі ...

І гэта – дзяржаўная палітыка!? А можа гэта проста – этнацыд, які пагражае перарасьці ў генацыд?! А можа – плянавая сэлекцыя па моўна-нацыянальных прыкметах, ці працяг рэалізацыі антыбеларускай дактрыны Імпэрска-Расейскага Заднарусізму "на новым гістарычным этапе"?! Калі ж мы памыляемся – пакажыце на справах адваротнае, панове-таварышы! Дазвольце нам жыць і дыхаць свабодна ва ўласнай краіне! Дайце ўзьняцца з каленяў старажытнаму народу, які адраджае свае каштоўнасьці і спадчыну. Проста – не замінайце. Бо мір – самае кашоўнае й неабходнае для "Боскага Зерня". Праўда сама знойдзе шлях да сонца. Беларусь – тая глеба, зь якой абавязкова вырасьце дрэва, што будзе квітнець, пладаносіць і радаваць будучыню новым жыцьцём ... – жыцьцём у СВАБОДЗЕ.







Пасьля нападаў славяна-фашыстоўцаў ...

**Алесь Вольны, Licviny-INFA**

У выданьні выкарыстоўваецца правапіс першакрыніцаў (калі ён блізкі да сучаснага клясычнага варыянту). Пераклады робяцца з улікам сучаснай канцэпцыі натуральнага ўнармаваньня абодвух правапісаў (да- і пасьлярэфармаванага). Рэдакцыя працуе без карэктару, таму прыносіць свае прабачэньні за магчымыя адрукоўкі ў тэкстах.

Незалежнае выданьне грамадзкай супольнасьці Жодзіна
(Выдавецкая ініцыятыва "Мы - Ліцьвіны" і агенцыя Licviny-INFA)
Адрас рэдакцыі:
222160 Жодзіна, а/с 201
E-mail: c_licviny@tut.by
Наклад 299 асобнікаў.
**Рэдактар АЛЕСЬ ВОЛЬНЫ**
Пры передруку спасылка на выданьне і першакрыніцу абавязковая.